# ЧАШНІКІ АТ запрашае да супрацоўніцтва

**Адным з тых, хто стаяў ля вытокаў акцыянернага таварыства, быў цяперашні старшыня яго праўлення Мікалай Півавараў. Нямала часу і сіл аддаў ён, каб ажыццявіць даўнюю мару — стварыць такую структуру, якая ў аднолькавай меры служыла б інтарэсам і прамысловасці, і сельскай гаспадаркі. І зусім не выпадкова ў якасці заснавальнікаў таварыства выступілі буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы горада і раёна — папяровая фабрыка «Чырвоная зорка», Новалукомскі завод керамзітавага гравію, камбінат прамысловых тавараў... І ўсё ж, што паслужыла першапрычынай, свайго роду штуршком для стварэння таварыства? З гэтага і пачалася наша гутарка са старшынёй праўлення.**

## Прымусіць рубель працаваць

— Вядома, пакуль у прамысловасці існавалі міністэрствы і ведамствы, — пачаў Мікалай Мікалаевіч, — а з імі і жорсткае нарміраванне, строгае размеркаванне рэсурсаў, амаль стопрацэнтны дзяржзаказ, ні пра якую вольнасць, у тым ліку і стварэнне акцыянерных таварыстваў, і думаць было «не магі». Тое самае і ў сельскай гаспадарцы. Але вось старыя структуры пачалі развальвацца, нібы той картачны дамок, і мы, я маю на ўвазе вытворцаў, апынуліся сам-насам з рынкам, які, як вядома, жартаваць не любіць. Пакуль існавала цэнтралізаванае забеспячэнне, сяк-так атаварвалі не такія ўжо і багатыя фонды, словам, неяк трымаліся. Але з надыходам рыначных адносін трэба было разлічваць на ўласныя сілы. Так нарадзілася ідэя аб'яднаць намаганні. Якім чынам? Доўга прымерваліся, перабіралі розныя варыянты. Да таго часу, напрыклад, у суседнім Сенненскім раёне ўжо функцыяніравала нешта накшталт аграпрамысловага аб'яднання. Але паколькі ў гэтай структурнай адзінкі адсутнічала прававая аснова — права юрыдычнай асобы, не было і свайго статута, разліковага рахунку — эфектыўнасць работы пакідала жадаць лепшага. Таму мы вырашылі стварыць юрыдычную арганізацыю са сваім статутам і рахункам. Так нарадзілася аграпрамысловае акцыянернае таварыства «Чашнікі».

У якасці заснавальнікаў выступілі прамысловыя прадпрыемствы, калгасы і саўгасы, да нас далучыліся таксама дзве гаспадаркі з суседняга Лепельскага раёна. Самую дзейсную дапамогу ў гэтай справе аказаў і аказвае выканком Чашніцкага райсавета, у прыватнасці яго старшыня, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Міхаіл Уладзіміравіч Васілеўскі.

**— І з чаго пачалі сваю дзейнасць? Першыя крокі, як вядома, самыя цяжкія.**

— Перш за ўсё трэба было сфарміраваць устаўны фонд, які мы вызначылі недзе ў межах паўтара мільёна рублёў. Апрача папяровай фабрыкі, завода керамзітавага гравію, іншых прадпрыемстваў заснавальнікам таварыства стаў і Беларускі інавацыйны банк. На першай жа канферэнцыі былі выбраны назіральны савет і праўленне таварыства, вызначаны парадак распаўсюджання акцый. Пакуль вырашана прадаваць іх толькі юрыдычным асобам. За адносна непрацяглы час было рэалізавана акцый больш чым на 900 тысяч рублёў. Аднак важна не толькі мець сродкі, але і выгадна ўкласці іх у справу. Трэба было прымусіць рубель працаваць. У канцы года адчуваўся востры таварны голад. І, каб хоць неяк насыціць рынак, мы праз свае структурныя сувязі, брокерскую кантору выйшлі на біржы, закупілі тавараў больш чым на паўмільёна рублёў. Спярша рэалізоўвалі іх праз гандлёвыя прадпрыемствы раёна. Аднак неўзабаве зразумелі, што, пакуль тая ці іншая рэч трапіць да спажыўца, адбываецца двайная, а то і трайная накрутка цаны. І тады вырашылі адкрыць сетку ўласных фірменных магазінаў па продажу тавараў, набытых на біржах, па бартэру. К таму часу запрацавалі ўласныя малыя прадпрыемствы, сякую - такую прадукцыю пачалі пастаўляць і фермеры. Словам, у пачатку студзеня ў Чашніках быў адкрыты першы фірменны магазін. Толькі за чатыры месяцы мінулага года на кожны ўкладзены рубель мелі 28 капеек прыбытку. Вядома, згодна са статутам, гэты прыбытак можна было падзяліць у адпаведнасці з укладзенымі сродкамі. Аднак усе ўдзельнікі канферэнцыі таварыства былі аднадушныя — дывідэнды накіраваць на пашырэнне вытворчасці, у прыватнасці, на стварэнне новых малых прадпрыемстваў, падтрымку фермераў. Апошнім дапамагаем у набыцці тэхнікі, розных рэсурсаў, яны ў сваю чаргу разлічваюцца за гэта прадукцыяй. Такім чынам, выгада ўзаемная. Пераканаўшыся ў гэтым, з намі пачалі супрацоўнічаць многія фермеры. І наогул, фермерскі рух у Чашніцкім раёне, бадай, адзін з самых актыўных на Віцебшчыне. Толькі за студзень — люты зарэгістравана 15 новых фермерскіх гаспадарак. У той час як у калгасах і саўгасах раёна пагалоўе жывёлы змяншаецца, на прыватных падворках, наадварот, расце. Праўда, многіх стрымлівае збыт жывёлы. І тут акцыянернае таварыства ідзе насустрач: у нас ёсць свабодныя магутнасці па перапрацоўцы мяса, у тым ліку на каўбасы, тушонку. Словам, і тут у сялян ёсць зацікаўленасць у падтрымцы дзелавых адносін з акцыянерным таварыствам.

**— Мяркуючы па ладным стосе візітак на вашым стале, геаграфія дзелавых сувязей не абмяжоўваецца Чашніцкім раёнам?**

— За апошні час у нас усталяваліся партнёрскія сувязі з кааператывам «Прамень», што ў Верхнядзвінскім раёне, шэрагам прадпрыемстваў Прыбалтыкі, Казахстана... З Казахстанам наогул адносіны вельмі цесныя. У абмен на нашу прадукцыю, асабліва на мяса, атрымліваем вострадэфіцытны цэмент. Выходзім на кантакт з польскімі фірмамі. У прыватнасці, там неблагая тэхналогія перапрацоўкі садавіны. Думаем пра сумеснае прадпрыемства па атрыманню сокаў, джэмаў... Вельмі непакоіць і такое пытанне, як перапрацоўка малака. Адзіны малочны завод у Новалукомлі (да таго ж, ён з'яўляецца філіялам Лепельскага маслазавода) не ў стане перапрацаваць усё малако, у выніку значная колькасць яго, асабліва летам, марнуецца. Таму таварыства гатова заключыць дагавор з любым навукова - даследчым інстытутам ці аб'яднаннем, якое падрадзілася б вырабіць невялікі завод ці ўстаноўку па перапрацоўцы малака ў аб'ёме 20—30 тон у суткі. Мяркую, што цяпер, асабліва ў сувязі з канверсіяй, вытворчыя магутнасці на многіх СКБ не загружаны. А нам падобнае супрацоўніцтва было б дарэчы. І не толькі па перапрацоўцы малака, але і стварэнню новых тэхналогій перапрацоўкі бульбы, садавіны, агародніны... Аплата як па безнаяўнаму разліку, так і па бартэру. Словам, чакаем дзелавыя прапановы ад тых, хто гатоў супрацоўнічаць з аграпрамысловым акцыянерным таварыствам «Чашнікі».

Цікавіць нас і тэхналогія сушкі сапрапелю. Адно з малых прадпрыемстваў раёна наладзіла здабычу гэтай каштоўнай сыравіны. Цяпер справа за распрацоўкай тэхналогіі абязводжвання. Пры дасягненні належнага эфекту прыбыткі могуць быць вялікімі.

## Зняць з ног путы

**Маналог былога старшыні калгаса, настаўніка, а цяпер фермера з вёскі Альшанка Фёдара КАЗЛОЎСКАГА:**

— Жыццё неаднойчы крута абыходзілася са мной. Як і многія аднагодкі, што выраслі ў вёсцы, я цвёрда вырашыў звязаць свой далейшы лёс з сельскай гаспадаркай. Перш за ўсё патрэбны былі веды, а таму скончыў Смальянскі сельгастэхнікум, потым завочна Вялікалуцкі сельгасінстытут, працаваў брыгадзірам, аграномам, узначаліў калгас. Але чым вышэй падымаўся па службовай лесвіцы, тым выразней бачыў бяссэнсавасць сваёй дзейнасці. Перш за ўсё поўнасцю страціў веру ў будучыню калгаснага ладу. Знешне ўсё адбывалася, як і раней: прыходзіў на работу, выслухоўваў па тэлефоне чарговую тыраду першага сакратара райкома, што і як рабіць. Гэта калі не трэба было тэрмінова ехаць на нейкую раённую нараду. Пасля аддаваў распараджэнні спецыялістам, брыгадзірам, а тыя па ланцужку — непасрэдным выканаўцам. Па камандзе сеялі, касілі, убіралі. А вынікі... Гэта толькі салдаты ў страі па камандзе могуць адначасова паварочвацца направа, налева, кругом. У сельскай гаспадарцы ўсё робіцца індывідуальна. Але гэта яшчэ, як кажуць, паўбяды. Адсутнічала ўсялякая зацікаўленасць у канчатковым выніку сваёй працы. Мы былі не хлебаробы — падзёншчыкі. А якая ад падзёншчыка аддача? З гектара зямлі збіралі па 25—30 цэнтнераў збожжа (пры гэтым за разлік браліся бункерныя, а не амбарныя цэнтнеры), па 150—180 цэнтнераў бульбы. Змагаліся, каб выйсці на рубеж надояў малака ў 3 тысячы кілаграмаў, у той час як Захад меў ад каровы 6—7 і больш тысяч кілаграмаў. Гектар зямлі даваў у нас недзе да тысячы рублёў даходу (па дарэформенных цэнах), а мог даваць у дзесяткі разоў больш.

Словам, бачачы ўсю далейшую бесперспектыўнасць свайго знаходжання на пасадзе кіраўніка калгаса, вырашыў падаць у адстаўку. Божа, які вэрхал усчаўся! Раённае начальства ўгаворвала, як магло. Аднак я ўпёрся. Развітаўся не толькі са старшынёўскім крэслам, давялося пакінуць калгас увогуле. Пайшоў працаваць у школу выкладчыкам біялогіі. А паколькі ведаў не хапала, паступіў у педінстытут. Правучыўся завочна тры гады — і новы круты паварот. Па ўсім былым Саюзе, ды і ў нашай рэспубліцы таксама пачаўся фермерскі рух. І вось вырашыў паспрабаваць сябе ў новай якасці. На тым гектары зямлі, што выдзелілі мне, завёў больш за два дзесяткі авечак, пачаў разводзіць нутрый, усур'ёз заняўся пчалярствам. Набыць больш магутны «Беларус» аказалася не па кішэні, а таму купіў ужо далёка не новы Т-25. І не шкадую. Сам адрамантаваў звычайны вясковы вазок, пераабсталяваў яго ў трактарную цялежку. Словам, справа пайшла на лад.

І ўсё ж гектар зямлі для фермера — мала. Каб як след паставіць справу, па маіх падліках, трэба мець, як мінімум, 5—6 гектараў. Звярнуўся да кіраўніцтва мясцовага саўгаса «Чашніцкі». Там нібыта і не адмовілі, не такі цяпер час, але прапанавалі такое, што, як кажуць, ні сабе, ні людзям. Маўляў, бяры паміж меліярацыйнай канавай і вузкакалейкай. Гэта паласа зямлі шырынёй 8—10 метраў, а ў даўжыню кіламетра паўтара. Як на такім лапіку развярнуцца з тэхнікай? Вядома, адмовіўся.

На чарговай раённай нарадзе фермераў з палёгкай даведаўся, што нам будуць дапамагаць Сельгастэхніка і Сельгасхімія гэтак жа, як калгасам і саўгасам. Напэўна, на мясцовы аграпром усё ж падзейнічала апошняя сесія райсавета, якая абавязала раённыя структуры ўсяляк спрыяць фермерам. Аднак і путаў на нашых нагах яшчэ шмат. Узяць тую ж зямлю. Вельмі неахвотна выдзяляюць яе нам калгасы і саўгасы. Добра разумеюць, што ў новай структуры— іх уласная пагібель. Упэўнены: варта толькі трэць зямлі перадаць фермерам — і цяперашнія калгасы і саўгасы развалянцца. Яны проста будуць не ў стане канкурыраваць з намі, бо ў фермера і прадукцыйнасць працы вышэйшая (усё ж працуеш на сябе, а не на чужога дзядзьку), і сабекошт прадукцыі ніжэйшы: няма над табой ні старшыні, ні бухгалтара, ні цэлага штату іншых канторскіх работнікаў. Між тым, цяга да калектыўных дзеянняў не адамрэ. Больш таго, узмоцніцца. Нядаўна даведаўся, што пяцёра фермераў з саўгаса «Кашчынскі» вырашылі аб'яднацца і ўзяць у арэнду 250 гектараў зямлі. Ну, чым не калгас? Праўда, гэты шлюб ужо і па каханню, і па разліку, але не па прымусу, як раней.

Словам, са старымі структурамі фермерам не па дарозе. А вось да акцыянернага таварыства, бачу, цягнуцца ахвотна. А ўсё таму, што і тэхнікай там гатовы дапамагчы, і тавар прыняць не па рабаўніцкіх цэнах. Так што пажывём — пабачым.

**Завод, фабрыка, калгас, саўгас... Гэтыя словы для нас дзесяцігоддзямі былі звязаны з адзінай грамадскай ці дзяржаўнай уласнасцю, што з'ўлялася, па сутнасці, адным і тым жа. І вось даводзіцца асвойваць новую тэрміналогію: акцыянернае таварыства, бізнес, іншыя паняцці, якія, здавалася, навек засталіся ў мінулым, або там, «за бугром». Што ж, рынак дыктуе свае ўмовы, мае свае правілы гульні.**

**Недзе ў пачатку жніўня мінулага года мне выпадкова давялося прысутнічаць на ўстаноўчай канферэнцыі аграпрамысловага акцыянернага таварыства «Чашнікі». Калі шчыра, далёка не ўсё, пра што гаварылі яго стваральнікі, было зразумела, хоць людзі вялі гаворку пра звычайныя рэчы: арганізацыю вытворчасці, гандаль, наладжванне камерцыйных структур. Тады яшчэ ўсімі сферамі запраўляў партыйны апарат, а таму і падумалася: што дадуць гэтыя чарговыя навацыі?**

**Мінула крыху больш за паўгода. І вось нядаўна зноў давялося пабываць у Чашніцкім раёне. Вырашыў унікнуць у сутнасць новай структуры. Хацелася даведацца: што там, за шыльдай аграпрамысловага акцыянернага таварыства «Чашнікі»? Што канкрэтна дало яно гораду, раёну ўжо цяпер, а галоўнае, чаго чакаць ад яго ў будучым?**

## Залаты цвік

Гэты невялікі прыземісты будынак з чырвонай цэглы выглядае не вельмі самавіта. Пабудаваны некалькі гадоў назад, ён доўгі час выкарыстоўваўся ў якасці склада. І вось група энтузіястаў, якая стварыла малое прадпрыемства «Спектр», угаварыла-такі старшыню калгаса «Палац працы» Міхаіла Хвашчэўскага аддаць ім будынак у арэнду.

— Маладыя прадпрымальнікі, — расказвае рабочы Уладзімір Дашкевіч,—пачыналі з малога: набылі станок, вядома, ужо не новы, дрот — і пачалі штампаваць цвікі. Як высветлілася, трапілі ў самую кропку, бо цвікі — дэфіцыт. Заказаў— хоць адбаўляй! Цвікі тыя і сапраўды аказаліся залатымі. Летась ад іх рэалізацыі атрымалі дзесяткі тысяч рублёў. Цяпер за месяц іх можна вырабіць амаль 10 тон. Пры дзяржаўнай цане 23 тысячы рублёў за тону толькі гэты ўчастак можа даць у месяц каля 200 тысяч рублёў. А яшчэ выраблялецца сталярка, у прыватнасці дзвярныя блокі, розныя ўпакавачныя скрыні, аддзелачныя дошкі. Набылі станок па вырабу цэментна-стружкавых блокаў — цяпер наогул вытворчасць становіцца безадходнай.

Дарэчы, такіх малых прадпрыемстваў, як «Спектр», у сістэме акцыянернага аграпрамысловага таварыства «Чашнікі» некалькі. Усім ім праўленне аказвае неабходную матэрыяльную падтрымку, заключае з імі дагаворы на збыт прадукцыі.

**На здымку:** Уладзімір **Дашкевіч** у цэху па вытворчасці цвікоў.

## Прыіск на дне возера

Хоць берагі даўно ўжо ачысціліся ад снегу, само Жэрынскае возера яшчэ спіць пад тоўстым ледзяным панцырам, які звычайна растае недзе ў сярэдзіне красавіка. І тым не менш, галоўны інжынер сумеснага прадпрыемства «Тэх-экс» Аляксандр Пурдзя ўсё часцей наведваецца сюды. Калі адзін, а нярэдка і з рабочымі. Каля берага, скаваны лёдам, узвышаецца земснарад. Як ён апынуўся тут, за сотні кіламетраў ад мора? І наогул, якая карысць ад гэтай сталёвай махіны?

Ужо некалькі гадоў на Захадзе, ды і ў нашай краіне сапраўдны ажыятаж вакол сапрапелю — глеістых арганічных адкладанняў на дне вадаёмаў. У савецкім энцыклапедычным слоўніку (год выпуску 1980) пазначана, што сапрапель выкарыстоўваецца ў якасці арганічных угнаенняў. Але паглыбленыя даследаванні паказалі, што сфера прымянення гэтых «глеістых асадкаў» намнога шырэйшая: яго з поспехам выкарыстоўваюць і ў якасці хімічнай сыравіны, і ў фармацэўтычнай прамысловасці...

— Яшчэ калі я працаваў старшынёй у калгасе «Прагрэс», — успамінае Мікалай Мікалаевіч Півавараў, — нарадзілася ідэя пачаць прамысловую распрацоўку залежаў сапрапелю на дне Жэрынскага возера. Яго запасы ацэньваюцца недзе ў 32 мільёны тон. Глыбіня пластоў — ад 4 да 13 метраў. Адзін з гомельскіх навукова-вытворчых інстытутаў распрацаваў тэхналогію здабычы. Вырашана было выкарыстаць звычайны земснарад. Стварылі сумеснае прадпрыемства, завезлі земснарад і пачалі распрацоўку.

У гутарцы з Мікалаем Мікалаевічам даведаўся, што летась было здабыта амаль 30 тысяч тон сапрапелю. Цяпер ідзе яго рэалізацыя — па 56 рублёў за тону. Праўда, пакуль што сапрапель купляюць толькі ў якасці ўгнаенняў. Адна з найбольш істотных прычын, што тармозіць рэалізацыю гэтай каштоўнай сыравіны, — празмерная вільготнасць. Так, здабыты сапрапель утрымлівае да 70 працэнтаў вільгаці. Для рэалізацыі яго, у тым ліку і за мяжу, трэба давесці вільготнасць да 50 працэнтаў. Гэта вельмі складаная задача. Справа ў тым, што тэмпература сушкі масы не павінна перавышаць 100 градусаў, інакш ён распадаецца. А таму сумеснае прадпрыемства шукае партнёра, якому пад сілу вырашэнне гэтай задачы Выгада будзе адчувальная. У пераводзе на сусветныя цэны на дне возера — сапраўдны залаты прыіск. Вось толькі як з карысцю распарадзіцца гэтым багаццем?

**На здымку:** земснарад на возеры.

## Стала інжынер прадаўцом

Ёсць на Ленінскай вуліцы райцэнтра невялікі двухпавярховы будынак з самай звычайнай шыльдай «Дом быту». На першым паверсе яго сёлета пачаў працаваць магазін. З'ява сама па сабе радавая: у Чашніцкім раёне гандлёвых кропак дзесяткі. Аднак да гэтага часу яны належалі або райспажыўсаюзу, або дзяржгандлю. Гэтая ж гандлёвая кропка пачала функцыяніраваць у якасці фірменнага магазіна акцыянернага таварыства «Чашнікі».

Вабіць вока ўнутранае афармленне. І хоць гандлёвая зала адносна невялікая, тут даволі ўтульна: на прылаўках мноства разнастайных тавараў як айчыннай, так і замежнай вытворчасці. Асобна прадстаўлены вырабы малых прадпрыемстваў, а таксама фермераў. Прадаюцца шапкі з футра нутрыі, самаробныя валёнкі, бабіны пражы. Як растлумачыла прадавец Вольга Каралёва, гэтыя тавары паставіў фермер, які сам вырошчвае нутрый, апрацоўвае шкуркі, сам і шапкі шые. Ды і цэны па цяперашнім часе не такія ўжо і вялікія — шапка каштуе паўтары тысячы рублёў. На Камароўскім рынку за аналагічныя вырабы просяць дзве тысячы і больш.

Зазірнула ў магазін стайка дзяўчат. Дружна накіраваліся да секцыі з адзеннем. Асартымент неблагі: паліто, плашчы, курткі. Як кажуць, вочы разбягаюцца. Але што выбраць? Якая мода ў новым сезоне? Праўда, і цэны кусачыя. Яшчэ не прывыклі мы да іх. І ўсё ж...

Вольга Каралёва, імкнучыся, як і належыць прадаўцу, выгадна прадаць тавар, тут жа тлумачыць, якія рэчы найбольш цяпер модныя. Прапануе чорны аксаміт — спадніцы з яго зноў у модзе.

Панаглядаеш за ёю — здаецца, ужо не першы год за прылаўкам. Ветлівая з пакупнікамі, уважліва выслухоўвае іх просьбы, стараецца дапамагчы, параіць. Цяжка паверыць, што яе працоўны стаж у новай якасці — некалькі месяцаў.

Не зусім звычайна склаўся яе лёс. У свой час Вольга скончыла Віцебскі тэхналагічны інстытут, працавала інжынерам. І вось прапанова —стаць прадаўцом. Доўга думала, а ўсё ж згадзілася. З аднаго боку, вабіла магчымасць зарабіць: у акцыянерным таварыстве абяцалі павышаную стаўку. Па-другое, яна, інжынер-тэхнолаг, выдатна ведае тэхналогію вытворчасці тавараў, сочыць за попытам, модай. Ва ўсякім разе, «туфту» ёй проста так не падсунуць. Даводзіцца быць і таваразнаўцам, і за экспедытара, і загадчыцай магазіна. Ці не таму акцыянернае таварыства ў адрозненне ад дзяржаўных структур можа больш свабодна вызначаць стаўкі сваім работнікам: была б адпаведная кваліфікацыя і жаданне працаваць.

Хоць з дня адкрыцця магазіна не мінула і двух месяцаў, аб'ём рэалізацыі перавысіў 196 тысяч рублёў. Заключаюцца новыя кантракты на пастаўку тавараў на многія сотні тысяч рублёў, у тым ліку і імпартных. Такі ж магазін неўзабаве будзе працаваць і ў Новалукомлі.

Праўда, стварэнне сеткі фірменных магазінаў акцыянернага таварыства не выклікае асаблівага энтузіязму ў райспажыўсаюзе, іх непакоіць, што асобныя тавары ў фірменным магазіне рэалізуюцца дзешавей, чым у сістэме спажыўкааперацыі. Але ж гэта і добра, бо канкурэнцыя будзе спрыяць павышэнню культуры гандлю, насычэнню рынку таварамі. За гэта людзі скажуць толькі дзякуй.

**На здымку:** прадавец **В. Каралёва** дапамагае пакупніцы выбраць патрэбны тавар.

